Цана асобнага нумару 20 грошаў.

Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

# НАША ПРАЦА

Выходзіць два разы у тыдзень.

| Адрэс Рэдакцы... Вільня, Віленская ... m. 6) Рэдакцыя адч... штодня, апрача сьвяточн... ад 9 да 3. | Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл. 50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. | Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі. | Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту. |
|---|---|---|---|

№ 2 Вільня, Серада 5-га кастрычніка 1927 г. Год I



## Вёска-работнікам,

Пашыранасьць тэй ці іншай ідэалёгіі мерыцца ня гучнымі заявамі і пекнымі лёзунгамі, паўтаранымі ў масах, а — жывым дзелам. І толькі на жывой рабоце, на дружных масавых выступленьнях можна праверыць і пазнаць, ці глыбака, ці крэпка гэтая ідэалёгія сядзіць у душы народу.

Гэтае агульнае правіла мы мусім тасаваць і да нашых беларускіх працоўных масаў, калі хочам пазнаць іх настроі, іх духовы стан. Асабліва-ж — настроі грамадзкія сацыяльныя.

Яшчэ так нядаўна паміж беларускай прэсай сялянска-работніцкага кірунку вялася вострая палеміка з буржуазнай прэсай у беларускай мове — аб тым, ці работнікі і сяляне—гэта ворагі, ці — натуральныя саюзьнікі? Хадэцка-сельсаюзьніцкія газэты гвалту крычалі, быццам паміж інтарэсамі працоўных масаў вёскі і места ляжыць цэлая прорва. Прадстаўніца сельскаюзьніцкага кірунку „Сялянская Ніва“ на гэтай падставе проста старалася нацкаваць сялян на работнікаў, не саромячыся ілгаць, быццам у выпадку ўвядзеньня сялянска-работніцкае ўлады работнікі... абернуць сялян у сваіх рабоў! Орган ксяндзоўска-ярэмічавае партыі з поўнай сьвядомасьцяй распачаў барацьбу з адзіным сялянска-работніцкім фронтам працоўных.

Паміма тых газэтых стацей, у якіх гэтая здрадніцкая агітацыя была выведзена на чыстую ваду на страніцах сялянска-работніцкае прэсы,—само жыцьцё дае штодзенна належны адказ ілжывым заявам падгалоскаў буржуазіі. Мы ўжо ня будзем тут успамінаць таго ўсім ведамага факту, што адзіная беларуская масавая арганізацыя магла ўтварыцца адно толькі і выключна на груньце такога адзінага фронту працоўных. А вось сягоньня прыходзіцца сцьвярдзіць, што навет і пасьля разгрому Грамады асноўны пункт грамадаўскае ідэалёгіі глыбака ўеўся ў народную душу і выяўляецца, як ня трэба лепш, на жывым дзеле.

Паслухайце-ж аб першай асабліва яркай праяве гэтага.

У Горадні, дзе здаўна існуе сернікавая фабрыка (цяпер належа да казённага манаполю), узьнялася забастоўка. Яе падтрымаў прафэсіянальны Саюз „Хімічнікаў“ (работнікаў хімічнае прамысловасьці),—ды ня толькі ў Горадні, ня толькі ў Зах. Беларусі (ў Пінску і Вільні зроблены сярод работнікаў зборы ахвяр на забастоўшчыкаў, а пасьля Пінск далучыўся сам да забастоўкі), — але і ўся Польшча. Забастоўка цяжкая, цягнецца ўжо месяцы. Работніцкіх складак — не хапае на пракорм бастуючых. І вось у гэты крытычны для работніцкіх барацьбітаў мамэнт выступае—*беларуская вёска*!

З розных месц Горадзеншчыны, ды сумежных паветаў да нас даходзяць весткі, што сяляне сваім адумам распачалі зборку хлеба і рознае іншае ёміны — для горадзенскіх работнікаў. Дзе толькі зьяўляюцца работніцкія зборшчыкі,—усюды сяляе шчодрай рукой напаўняюць іхнія мяхі хлебам, бульбай, салам і інш. Так вёска паказуе, што яна глыбака верыць у правільнасьць палітыкі адзінства працоўнага фронту, так сяляне не на славах, а на дзеле выяўляюць перамогу ў масах сялянска-работніцкае ідэалёгіі.

І мы верым — глыбака верым, што таксама й работнікі стануць у прыгодзе поплеч з нашым сялянствам у змаганьні вёскі за свае сацыяльныя і нацыянальныя ідэалы. Еднасьць працоўных ня можа выяўляцца аднабока: яна—ўзаемная, двухстаронньняя.

## Проці прэсавага дэкрэту.

### Адказ маршалка Сойму—прэм'еру.

Газэты надрукавалі поўны тэкст адказу маршалка Сойму Ратая на пісьмо прэм'ера, у якім апошні даводзіў праўнае бясільле Сойму касаваць сваей простай пастановай дэкрэты прэзыдэнта.

Марш. Ратай пункт па пункце зьбівае дзіўна слабую, праўна-недарэчную аргумэнтацыю ўраду, так што ад яе не застаецца навет мокрага месца... Пазываючыся на ўсю гісторыю права дэкрэтаваньня, дадзенага ўраду—на азначаных варунках — Соймам, маршалак Сойму ясна і аўтарытэтна высьвятляе „думку заканадаўцы“, якую-ж пэўна найляпей ведае сама заканадаўчая палата, стварыўшая для ўраду абмяжаванае „права заканадаўства“... Але—якраз справа—ў тым, што „зусім ясная думка і воля заканадаўцы“ сустрэлася з ня менш яснай „воляй выканаўцы“, які ня менш добра разумее „думку Сойму“, чым сам Сойм, ды толькі зусім ня хоча яе спаўняць.

Дык уся справа „праўнага спору“ яўна перанесена ўрадам, ці яго шэфам — у плошчу фактычных адносінаў сілаў у краі. А як ведама, якраз гэтыя адносіны фактычных сілаў у краі Ляссаль лічыў запраўднай рэальнай канстытуцыяй у дзяржаве, шмат мацнейшай, як усякая „пісаная канстытуцыя“...

Гэткім чынам—старшыня ўраду, парушаючы „пісаную канстытуцыю“, дае нейкую „прадметаую лекцыю“ краю — ў галіне палітычных навукаў... А тым самым заклікае ўвесь край, каб ён прыняў самае гарачае ўчасьце ў шуканьні тэй новай рэальнай канстытуцыі, якая-б адпавядала фактычнаму ўкладу сілаў у Польшчы... Добра яшчэ, калі гэтае „шуканьне“ пойдзе прадбачаным у Канстытуцыі шляхам—новых выбараў і т. п., а не „фактычным“ шляхам — шляхам „тварэньня фактаў дакананых“, як любіў выражацца калісьці былы Начальнік Дзяржавы марш. Пілсудскі...

### Пратэст польскіх журналістаў.

Управа саюзу варшаўскіх журналістаў прыняла на паседжаньні 28 верасьня аднагалосную пастанову: публічна пратэставаць проці тасаваньня адміністрацыйнай і судовай уладамі скасаванага Соймам прэсавага дэкрэту.

У выданай управай і надрукаванай у газэтах адозьве журналісты паўторна выступаюць „проці духу і літэры дэкрэту, які заваструе далей навет тыя праўныя варункі, у якіх існавала польская прэса да вайны ў заборчых дзяржавах“. Журналісты пратэстуюць „проці тых перашкодаў, з якімі спаткалася—на шляху свайго выкананьня — законная пастанова Сойму аб скасаваньні дэкрэту“... У канцы адозвы журналісты пішуць, што лічаць сваім абавязкам дабівацца апублікаваньня фармальнага скасаваньня дэкрэту,—бо інакш на практыцы прынцып свабоды прэсы зробіцца толькі мёртвай літэрай— на вялікую шкоду нармальнага публічнага жыцьця краю“.

„Свабода прэсы будзе мёртвай у краі“.— Вось знайшлі чым настрашыць уладу паны журналісты! Дык ці-ж дзеля чаго іншага і выданы быў дэкрэт?... Вось за тое „свабода паноў адміністратараў“ зробіцца зусім жывой ды вясёлай...

## Лёс нашых матурыстаў.

Галоўная Управа Т-ва Беларускае Школы паслала міністру асьветы гэткі мэморыял у справе лёсу нашых матурыстаў, якую ўжо ня раз парушала беларуская сялянска-работніцкая прэса. Падаем гэту заяву поўнасьцяй.

### Да пана Міністра Рэлігійных Вызнаньняў і Публічнай Асьветы.

У межах Польскай Рэспублікі існуюць чатыры прыватных беларускіх гімназіі, з якіх што-год выходзіць 30 — 40 беларускіх матурыстаў. Гэта асяродкі беларускай нацыянальнай асьветы, гдзе вучыцца ў матчынай мове беларуская моладзь, атрымліваючы веду ў рамах, усталеных урадовымі праграмамі для сярэдніх школаў.

Цяжкія варункі атрыманьня навукі (высокія аплаты ў беларускіх гімназіях, пазбаўленых дзяржаўнай помачы), а таксама агранічэньні ў сэньсе праў, не адпіхваюць моладзь беларускую ад сваей роднай школы, хаця вучні беларускіх гімназій належаць пераважна да найбяднейшых слаеў, рэкрутуючыся са сфэраў сялянскіх, работніцкіх і дробна-мяшчанскіх. З вялікім напружаньнем сіл, працы і матар'яльных ахвяр, моладзь гэтая канчае беларускія гімназіі і зусім натуральна лятуціць аб далейшай адукацыі ў вышэйшых навуковых інстытуцыях. Зусім таксама натуральна імкнецца да таго, каб вучыцца ў вышэйшых краёвых школах — пераважна ў Віленскім Унівэрсытэце. На жаль, пазбаўленьне беларускіх гімназій праз уладу права выдаваньня дзяржаўнай матуры, адчыняючай вароты вышэйшых школаў у Польшчы, змушаюць нашу моладзь да эміграваньня заграніцу, гдзе пасьведчаньні аб сканчэньні беларускіх гімназій трактуюцца на роўні з матурамі дзяржаўнымі. Толькі там, на чужой старане, даступна для беларускіх матурыстаў вышэйшая асьвета. Найбольшая частка эміграцыі скіроўваецца да Чэхаславакіі, гдзе братні славянскі народ стараецца залагодзіць тую крыўду, якая робіцца ім на сваей зямлі.

Іншая частка гэтых асаблівых эмігрантаў, змушаных па-за краем шукаць вышэйшай асьветы, адпраўляецца да Савецкай Беларусі. І вось, творыцца запраўды нейкае фатальнае, зачараванае кола: бо польскія ўлады ў гэтым вымушаным польскай-жа школьнай палітыкай кркоу хочуць відзець доказ „скамунізаваньня“ прыватных беларускіх гімназій, заўсягды матывуючы гэтым свой спраціў у справе наданьня нашым гімназіям правоў публічнасьці. Стараньні нашы аб наданьні беларускім гімназіям правоў публічнасьці, як і раней, канчаюцца нічым. Навет абяцанае ўжо пісьменна праз Віленскі Куратарыум (копія далучана, далуч. № 1) призганьне Віленскай Беларускай Гімназіі права правядзеньня экзаменаў сьпеласьці для абітур'ентаў вышэйуспомненай гімназіі ў 1925 годзе—ня было споўнена, з тае прычыны, што выкладаньне гісторыі і геаграфіі агульнай вялося ў беларускай мове (папольску выкладаецца толькі полёністыка). Пасьля маёвага перавароту вымаганьне ўладаў весьці выкладаньне па гісторыі і геаграфіі агульнай у польскай мове было скасавана. Лёгічна думаючы, можна было дапушчаць, што цяпер няма ніякіх перашкодаў для правядзеньня ў жыцьцё дадзенага абяцаньня адносна экзаменаў сьпеласьці для абітур'ентаў беларускай гімназіі ў Вільні. Аднак сталася інакш. Віленскі Куратарыум адмаўляе наагул з'арганізаваць вышэйуспомненыя экзамены (далучнік № 2). Паказвае гэта найвыразьней, што ня нізкі быццам ровень навуковы гімназіі, але нейкія іншыя прычыны спавадоўваюць далейшае агранічэньне правоў нашых сярэдніх школ, зачыняючы для нашай моладзі доступ да вышэйшых школаў у Польшчы.

Да бягучага году незаможная беларуская моладзь, для якой выезд заграніцу на вышэйшыя студыі недаступны з матар'яльных прычын, мела прынамсі магчымасьць хадзіць да Віленскага Унівэрсытэту ў характары вольных слухачоў, адмаўляючыся ад правоў звычайных студэнтаў. Цяпер—распараджэньнем Міністэрства В. Р. і А. П. наша моладзь пазбаўлена і гэтага агранічанага права, якое, не даючы ніякіх прывілеяў і матар'яльнай карысьці, здаволівае толькі імкненьне выхаванцаў сярэдняй беларускай школы да здабыцьця веды за ўсякую цану.

Шукаючы выхаду з гэтай сітуацыі, так цяжкой для беларускай моладзі, а ў-ва ўсякім прыпадку для Дзяржавы Польскай некарыснай, Галоўная Управа Т-ва Беларускай Школы зварачваецца гэтым да Пана Міністра з настойчывай просьбай, каб у імя справядлівасьці захацеў здаволіць імкненьні беларускай моладзі да вышэйшай асьветы ў краі і скасаваў вышэйуспомненае распараджэньне Міністэрства В. Р. і А. П., а таксама надаў правы публічнасьці гімназіям беларускім у Вільні, Радашковічах, Наваградку і Клецку, і гэтым самым зраўняў матурыстаў беларускіх у сэньсе правоў у адносінах да вышэйшых школ з матурыстамі гімназій дзяржаўных,— ужо ў распачатым школьным годзе 1927/28.

Віцэ-Старшыня **І. Савіцкі.**

Сэкрэтар **Г. Шырма.**

27—IX—1927 г.
г. Вільня.

**Далучнік № 1.**

Куратарыум Віленскага
Школьнага Вокругу
Вільня, дня 7-IV-1925 г.
№ 5648/25-II.

Пры адказе паклікацца
на гэтую лічбу і дату.
У справе тэрміну вызначэньня экзам. сьпеласьці
для абітур'ентаў гімназіі.

**Да Дырэкцыі Беларускай Гімназіі ў Вільні.**

У адказ на пісьмо з дня 20 і 31 сакавіка б. г. № 20/52 і 59 Куратарыум В. Ш. В. паведамляе, што экзамін сьпеласьці для абітур'ентаў беларускай гімназіі згодна з прапазіцыяй Дырэкцыі можа быць зроблены ў месяцы верасьні 1925 г.

Экзамін адбывацца будзе ў мове беларускай за выключэньнем экзамену з мовы польскай, гісторыі, геаграфіі Польшчы і навукі аб Польшчы, якія будуць весьціся папольску. Незнаёмасьць тэрміналёгіі польскай з прадметаў, з якіх экзамен будзе весьціся ў мове беларускай, ня будзе ўважацца за дастатачны повад для адмовы ў матуры. Склад Экзаменацыйнай Камісіі ў гэты момант яшчэ ня ўсталены, аднак можна ўжо цяпер сьцьвярдзіць, што ў склад яе ўвойдуць, як асобы з лічбы вучыцялёў Беларускай Гімназіі, так і з па-за гэтае лічбы.

Куратар (подпіс).

За згоднасьць Сэкрэтар,—**Г. Шырма.**

**Далучнік № 2.**

Куратарыум Віленскага
Школьнага Вокругу
Вільня, дня 2-VIII-1927 г.
№ II-18322/27.

Пры адказах паклікацца
на гэтую лічбу і дату.
У справе экзаменаў
сьпеласьці для абітур'ен.
беларускіх гімназій. На
№ 1317 дня 21-VIII-1927 г.

**Да Галоўнай Упрары Т-ва Бел. Школы ў Вільні.**

Адказываючы на просьбу Т-ва з дня 21-VII гэтага году № 1317 у справе з'арганізаваньня пры тутэйшым Школьным Вокрузе экзаменаў сьпеласьці ў беларускай мове для абітур'ентаў беларускіх гімназіі ў Вільні, Радашкавічах і Клецку, Куратарыум паведамляе, што згодна з распараджэньнем Міністэрства В. Р., А. П. з дня 29 лістапада 1926 г. № II-13593/26 (Dz.U.K.O.S.Wil. z dnia 10 I-1927. № 1 poz. 3) — экзамены сьпеласьці ў мове навучаньня школы для абсальвэнтаў гімназій бяз праў могуць быць арганізаваны толькі тады, калі гімназіі тыя вядуцца ў такой мове навучаньня, у якой навучаецца ў гімназіях дзяржаўных, маючых правы публічнасьці.

Куратар Школьнага Вокругу w. z. (подпіс).

Начальнік аддзелу.

За згоднасьць Сэкрэтар,—**Г. Шырма.**

## Ці у бок паразуменьня з палякамі?!

### (Настроі сярод украінскай буржуазіі).

Нядаўна львоўскі ваявода Дунін-Борковскі, кажучы аб „дзікаўскім зъезьдзе“, заявіў, між іншым, аб сваім праекце выбарнага блёку ў сваім ваяводзтве, калі не на ўсю Галіччыну. — Па думцы ягонай, на новыя выбары польскія „санатары“ (пілсудчыкі), утытулаваныя зубры-абшарнікі (таксама пілсудчыкі) і, выбачайце, украінскія нацыяналісты (буржуазія) павінны ісьці разам—цесным блёкам, выставіўшы адзін супольны, аб'яднаны сэрдэчным даверыем, сьпісак кандыдатаў... На першым месцы такога сьпіску павінен (—ну, зразумела-ж!) стаяць „санатар“ (з урадоўцаў-пілсудчыкаў, маёраў, ці да т. п.); на другім—украінец з УНДО, на трэцім кансэрватар-абшарнік (граф ці князь). Гэткім „радыкалізмам“ п. ваявода спадзяецца адразу прыгарнуць да сябе ўсе буржуазныя сэрцы ўкраінскай эндэцыі, якая — па думцы марш. Пілсудскага ды ягонага ваяводы Борковскага—павінна ў Галіччыне на выбарах заняць месца польскай эндэцыі, так

зьненавіджанай марш. Пілсудскім... Як дасьціпна пісаў Строньскі ў „Варшавянцы“, замест былага блёку „Пяст-Эндэцыя“ Пілсудскі пастанавіў зрабіць новы ўрадавы блёк „Зубр-Санацыя“. А да яго на ўкраінскіх землях дамяшаць яшчэ квантум сатіс (сколькі трэба) ўкраінскай эндэцыі...

Ваявода Борковскі наагул атрымаў загад „кокетоваць“ украінскі народ, гэта-ж значыць, зразумела,—буржуазію. Як сіпяць эндэцкія газэты, ваявода Дунін ня можа зусім абыйсьціся бяз гэтых любых яго сэрцу ўкраінцаў, без якіх ня можа зрабіць ніводнага балю, аніводнага паседжаньня—урадова-грамадзкага ці ўрадова-палітычнага характару. Дзіва, што ён ня можа абмінуць пані „Унды“ —каб не пратанцаваць з ёй ў першай пары на тым вялізарным выбарным балі, які, як чутна, ужо шырока і раскошна рыхтуецца пакрысе ды тайком ад грамадзянства—урадавымі групамі.

Але сэрдэчна-ветлівая акцыя толерантнага ды асьвечанага п. ваяводы не спаткала аднолькавага адношаньня да сябе з боку навет буржуазнага ўкраінскага грамадзянства.—Настроі гэтага грамадзянства прарваліся асабліва пасьля вялікага ды пышнага балю, які львоўскі ваявода выдаў у часе „Таргоў Усходніх“ у Львове. На гэты вялікі баль былі запрошаны найлепшыя краскі ды „сьмятанка“ ўкраінскага грамадзянства. Некалькі асоб навет пайшлі на баль, што, в'-даць, дало п. ваяводзе падумаць ужо і аб магчымасьці супольных сьпіскаў на выбарах і г. д...

Але раптам усё гэтае „ваяводзка-ўкраінскае“ паразуменьне знайшло водгук — у „судзе“, які быў наладжаны Цэнтральным Камітэтам „УНДО“ над тымі асобамі („сьмятанкай“), якія прынялі запрошаньне пана львоўскага ваяводы ды пайшлі на ягоны баль у часе „Таргув Всходніх“... Прэзыдыум Цэнтральнага Камітэту „Украінскіх Нацыянал-Дэмакратычных Арганізацыяў“ („УНДО“) запрапанаваў выключыць гэтых паноў, што балявалі разам з польскім ваяводай у Львове. На гэты „суд“ зьехаўся поўны камплект Цэнтральнага Камітэту,—былі прысутны ўсе сябры з Валыншчыны, з Холмшчыны і г. д... Некалькі гадзін ішла гарачая дыскусія, ці сказьніць гэтых „здрайцаў украінскай справы“, ці—памілаваць... Але ўрэшце — памілавалі... Сярод камплекту Ц. К. знайшлася большасьць, якая рашыла, што „грамадзкія скокі—танцы“ ўкраінскіх дзеячоў з польскімі „крэсоўцамі“ на ваяводзкім „усходнім балі“—не праступленьне і ня „здрада ўкраінскага стану“ ў Польшчы.

Як можна было прадбачыць, судовы прысуд Ц. К. „УНДо“ выклікаў жывы водгук у польскай прэсе, вялікае парушэньне „ульгі“ (палёгкі) сярод польскага палітычна-ўзгадаванага грамадзянства. — Прэса—мо' і слушна — бачыць у гэтым „апраўдаўчым прысудзе“ добры знак, добрую варажбу на будучыню, мо' ўжо і вельмі блізкую. — Апраўдаўшы сваіх павадыроў за грамадзка-балёвыя скокі з палякамі на ваяводзкім балі, Ц. Камітэт „Ундо“ мо' ўжо і пабагаславіць іх і на—супольныя палітычныя танцы на выбарным балі, які, як відаць, ня менш шыкарна ладзіць начальства пана ваяводы ў Галіччыне. Паводле ягонае думкі, скакаць будуць: на першым месцы—„урадавы санатар“, на другім—„ундавец“, на трэцім—абшарнік з графскай ці князяўскай каронай пад фракам.

Ваяводзкі баль у часе „Таргув Всходніх“ мо' запраўды акажацца прарочым. І на новым выбарным балі пачнуцца, так сказаць, „Таргі Заходне“, якія, трэба думаць, скончацца для абедзьвюх старон добра ды памысна, адчыняючы „новую эру“, — новы сталы, шчасьлівы, вясёлы баль польскай і ўкраінскай буржуазіі—на галовах польскага і ўкраінскага народаў... Памагай-жа, Божа!

Для нас, беларусаў, усе гэтыя суседзкія баляваньні маюць так сама вялізарную цікаўнасьць. Бо-ж, калі п. Павлюкевіч адкрыў толькі-што, што ў Беларусі зусім няма буржуазіі, ані работніцкай клясы, а ёсьць толькі народ-сялянства ды інтэлігенцыя, але ў кожным разе ёсьць такі пара, другая, дзесятая панкоў і паночкаў, якія нічога ня мелі-б проці таго, каб паны „беларускія“ ваяводы, зпажыўшы пары ці тройкі на блізкім ужо „выбарным балі“, забясьпечылі гэтым панком інакш вельмі няпэўныя, калі ня зусім „прапашчыя“ для іх—пасольскія мандаты.

Нядаўна ў-ва ўсіх газэтах падаваліся зусім ясныя весткі аб гэткіх „санацыйных“ сьпісках, дзе ярэмічавым сельсаюзьнікам даваліся адно толькі чацьвертыя, ці пятыя месцы...

# Польска-радавыя перагаворы.

Беларуская прэса падавала ў свой час камунікат польскага ўраду, які вельмі оптымістычна рысаваў магчымасьці і пэрспэктывы поўнага паразуменьня паміж Польшчай і ССРР—у бліжэйшыя часы.

Нямецкая прэса, наадварот, вельмі скэптычна адносіцца да гэтага „залішняга оптымізму“ польскага ўрадавага камунікату. Паводле адной з найпаважнейшых газэт, якая асабліва цікавіцца ўсходнімі справамі,—розьніцы паміж гэтымі дзяржавамі настолькі значныя, што спадзявацца, дый яшчэ ў хуткім часе, паразуменьня—вельмі трудна. Асабліва-ж справу ўсходніх граніцаў Польшчы газэта нямецкіх лібэралаў лічыць непераможнай перашкодай, бо іх „ніколі ня прызнае Расея“. Каб было магчыма запраўднае збліжэньне паміж ССРР і Польшчай, дык—або Польшча павінна была-б выйсьці з складу Лігі Народаў, або самы Статут Лігі Народаў павінен быў бы быць пераробленым.

Далей газэта дагадываецца, чаму гэта якраз цяпер выдадзены быў гэткі мірна паразумеўчы камунікат польскім урадам?—Гэтую прычыну яна бачыць у тым, што ў Варшаве ў сучасны мамэнт ідуць перагаворы з амэрыканскімі банкірамі ў справе значнай пазыкі для Польшчы. Як можна думаць паводле вестак у прэсе, справа пазыкі зацягнулася ізноў—з прычыны нявыгаднага курсу пазыкі, якім банкіры хочуць у пэўнай меры падчыркнуць ды—пакрыць рызыку пазыкі, даванай краю, якога граніцы і наагул адносіны да абодвух яго магутных суседзяў—няпэўныя...

Як ведама, Амэрыка ня прызнала ані Рыжскага Трактату, ані наагул граніцаў Польшчы—ні на ўсходзе, ні на заходзе.

Дык вось нямецкая газэта і лічыць, што польскі ўрад, абвяшчаючы аб вельмі прыязных адносінах паміж Польшчай і Радамі, якія быццам ня толькі цалком выключаюць усялякую рызыку вайны, а навет абяцаюць Польшчы падтрыманьне яе і яе граніцаў на Захадзе,—хоча зрабіць добрае ўражэньне на Амэрыцы ды на гэтых банкірах... А гэта (—ясна-ж!) дзеля таго, каб яны злагодзілі крыху свае цяжкія варункі пазыкі...

# Палітычная хроніка.

## У Польшчы.

### Перагаворы ў справе пазыкі зацягваюцца.

Ізноў пачалася дзіўная цеганіна з перагаворамі ў справе амэрыканскай пазыкі для Польшчы. Мы памятаем, як доўга ды скандальна цягнулася гэтая справа ў першую палову гэтага году, як урэшце паводле яснай заявы ўраду—справа была канчальна абгаворана і ўзгоднены былі ўсе варункі, навет быў дадзены „задатак“. Толькі ўсё ж пазыка, але а тое—зусім „гатовая“, — была адложана на восень—дзеля таго, што ў амэрыканцаў было ўлетку неяк „пуста ў кішані“... А вось цяпер узнаўляецца цалком уся летняя валакіта... Ізноў амэрыканскія паўнамоцнікі па 20 тысячаў злотых у дзень трацяць на тэлеграфную перапіску з Нью-Іоркам, пытаючыся ў сваіх шэфаў новых інструкцыяў ды паведамляючы іх аб ходзе перагавораў...

### Сойм усё-ж будзе патрэбны ўраду!

Газэты пішуць, што амэрыканскія банкіры—паміж іншымі варункамі выдачы пазыкі польскаму ўраду—патрэбавалі, каб пазыка канешне была зацьверджана парляманам. Гэткім чынам ураду прыдзецца неяк наладзіць свае адносіны з заканадаўчымі палатамі—пад націскам звонку...

### Выключэньне міністра Морачэвскага з ППС.

1 кастрычніка адбылося паседжаньне партыйнага суда пэпээсаў, які выключыў нарэшце „таварыша Морачэвскага“ з складу ППС.

Газэты пішуць, быццам ППС паставіла мін. Морачэвскаму дамаганьне — на выбар: або зрачыся партфэлю міністра, або—падаць заяву аб выхадзе з партыі. Але быццам „таварыш“ Морачэвскі“ не зрабіў ані таго, ані другога. Тады партыя — з пачыну Ц. К.— ужыла найцяжэйшую меру — выгнаньне з партыі. Матываваны прысуд кажа, што Морачэвскі выгнаны з партыі за тое, што — „прыняўшы міністэрскі партфэль проці волі партыі, ён у далейшым часе, зламаўшы зусім салідарнасьць з партыяй, пачаў ужо выразна супрацоўнічаць з усім урадам (марш. Пілсудскага...)—на шкоду работніцкай клясе“.

### Расколы ў польскіх левых партыях.

„Уплыў“ сучаснага ўраду на раскол ды развал польскіх работніцкіх і сялянскіх партыяў—ня спыняецца.

Толькі-што было надрукавана ў газэтах заява аднаго з правінцыяльных аддзелаў ППС, якая пратэстуе проці апазіцыйнага становішча партыі, а перадусім соймавага клюбу пэпээсаў, адносна да ўраду маршалка Пілсудскага... Ясна, што гэткі пратэст пагражае адколам, не расколам партыі...

А вось цяпер пачаўся „ісход“ пілсудчыкаў з „Вызваленьня“, якое—пад націскам на мясцох—таксама займае апазіцыйнае становішча ў адносінах да ўраду...—Так. сэнатар Зубовіч падаў заяву ў Галоўн. Управу Партыі „Вызвал.“,—аб сваім выхадзе. За тое расьце „больш радыкальны“ — „Хлопскі Зьвязок“, куды толькі-што ўвайшлі п. п. Галка, Пятроўскі і інш. Гэты „Сялянскі Саюз“—побач з „Клюбам Працы“—зьяўляюцца адзінай „парляманцкай падставай“ ураду ў краі...

### „Па прыкладу багоў“.

Непашана да іспуючых законаў усьцяж расьце ў краі.—Злавешчым прыкладам гэтага зьяўляецца характэрнае здарэньне ў Варшаве, дзе ў памяшчэньні Галоўнага Камітэту аднэй з работніцкіх партыяў (навет такой мірнай, як Н. П. Р...) зьявілася паліцыя, і зрабіўшы вобыск, апячатала ўсе шафы і сталы ў памешканьні. Калі прысутныя сябры партыі патрэбавалі ў паліцыі ордэру на вобыск ды арышт, тады ім быў пададзены кавалак паперкі з загадам... пана старшага пшодоўніка паліцыі—замест судовай улады, як гэтага вымагае закон...

„Старшы пшодоўнік“ замест судовай калегіі—гэта „сымвал“...

### Цікаўны выпадак.

Польская прэса падала вестку, што на польска-радавым пагранічны адбылося паседжаньне мяшанай польска-радавай камісіі, на якім разглядалася справа выдачы польскім уладам польскага паручніка Франка, аб „парваньні“ якога радавымі пагранічнікамі нядаўна паведаміла з абурэньнем польская прэса. На паседжаньні быў дастаўлены сам пар. Франк, які заявіў, што яго ніхто не хапаў, але што ён сам перайшоў граніцу дый хоча астацца ў ССРР.

І вось, гэты пар. Франк, якога так шкадавала польская прэса, як „дзельнага жаўнера“, (—тады, калі ён лічыўся „парваным“!), цяпер—аказаўся „марфіністам і эротоманам“, калі выясьнілася, што ён уцёк сам, дый ня хоча варачацца ў Польшчу...

### Тэлэфонная камунікацыя паміж Польшчай і ССРР.

У Варшаву прыбыла дэлегацыя з ССРР, якая вядзе перагаворы з міністэрствам поштаў і тэлеграфаў аб устанаўленьні тэлефоннай камунікацыі між Польшчай і ССРР.

### Першыя „загурска-прэсавыя“ справы ў судзе.

У варшаўскім судзе 30 верасьня разьбіралася аж 11 спраў правых газэт, абвінавачаных у „распаўсюджваньні фальшывых вестак“ дый у „непашане да ўраду“ — у зьвязку з справай „узяцьця жыўцом на неба“ генарала Загурскага. Па дамаганьню абароны суд адлажыў усе справы да 19 кастрычніка.

## Заграніцай.

### Сэнсацыйная заява Чычэрына.

Як ведама, нядаўна англійскі ўрад — праз аднаго з скандынаўскіх міністраў—пробаваў грунт у Маскве адносна да магчымасьці нейкага паразуменьня з радавым урадам. Ня веручы ў шчырасьць сучаснага англійскага ўраду, радавы ўрад адказаў тады на гэта, што яму зусім ня сьпешна ўзнаўляць дыпляматычныя зносіны з Англіяй. А вось цяпер, як паведаміла „Усх. Аген.“, Чычэрын быццам зрабіў заяву, у якой сказаў, што Рады гатовы распачаць перагаворы з Англіяй—дзеля вырашэньня ўсіх непаразуменьняў паміж абыдвума краямі. Але радавы ўрад павінен мець гарантыю, што наладжаныя адносіны ізноў ня будуць сарваны англійскім урадам дзеля нейкае выдуманае прычыны.

Польскае агенцтва тлумачыць гэтую заяву, як спрытны ход дыплямата, які гэтым хоча націснуць на францускі ўрад, каб той ня вельмі ўжо даражыўся, але лягчэй ішоў на ўступкі радаваму ўраду.

Можа гэта і так. Бо-ж францускі ўрад ізноў пачаў рабіць перашкоды ў справе паразуменьня з Радамі, — пэўна-ж, лічучы, быццам бяз прыязьні з Францыяй — пасьля разрыву з Англіяй — Рады ўжо не пражывуць ніводнага дня. Напрыклад, — ужо пасьля афіцыяльнай заявы Брыяна аб зьліквідаваньні справы пасла Раковскага — францускі ўрад—пад націскам правіцы — ізноў падняў гэтую справу, быццам навет ізноў даручыўшы свайму паслу ў Маскве рашуча дамагацца адкліканьня Раковскага з Парыжу.

Так прынамся піша француская прэса. Быццам францускі ўрад пастанавіў не ўзнаў-

---

*Ул. Короленко.*

# Судны дзень.

(*Іом-Кіпур*) *)

(Украінская казка).

Пераклала Вера Грыц.

> Агонь затух, а месяц усходзіць, у лясу
> пасецца ваўкалак.
> (Шэўчэнка).

## I.

Вось што: выйдзі ты, чалавеча, у ясную ноч з свае хаты, а яшчэ ляпей за вёску на прыгорачак, і паглядзі на неба й зямлю. Паглядзі, як па небе ходзіць ясны месяц, як мігаюць і іскрацца зоры, як падымаюцца ад зямлі лёгкія хмары і плывуць кудысьці адна за аднэй, нібы падарожнікі спозьніўшыся ідуць начною дарогаю. А лес стаіць зачараваны і слухае, якія чары ўстаюць у ім з паўночы, сонная рэчка бяжыць і журчыць і бармоча штось прыбярэжным яварам... І скажы ты мне, пасьля гэтага, чаго толькі, якіх дзіваў ня можа здарыцца ў гэтай божай хатцы, што людзі называюць белым сьветам?

Усё можа здарыцца. Вось з маім знаёмым, нова-каменскім млынаром, таксама раз здарылася гісторыя... Калі вам яшчэ ніхто не апавядаў, дык я, можа, раскажу, толькі ўжо вы ня змушайце мяне, каб пабажыўся, што гэта ўсё праўда. Ні за што не пабажуся, дзеля таго, што хоць і чуў я яе ад самога млынара, але ўсё ж такі і да гэтае пары ня ведаю: ці было гэта запраўды, ці ня было.

Але, ці гэта было, ці ня было, а апавядаць трэба, як было.

Раз ўвечары, пасьля вячэрні ў Нова-Каменцы, — а млын ад вёскі вёрстаў гэтак паўтары ня больш, — млынар вярнуўся да хаты ня ў вельмі добрым настрою. А чым яму быць нездаволеным, гэтага ён і сам не патрапіў-бы сказаць. У царкве йшло ўсё, як трэба, і наш млынар, гарладзёр не астатні, чытаў на клірасе так голасна і так хутка, што й прывычныя людзі дзівіліся. „Вось як чэша, чортаў сын,—гаварылі добрыя людзі з вялікім рэшпэктам, — хоць-бы табе адно слова можна было зразумець! Запраўднае кола: круціцца-коціцца, і ведаеш, што ёсьць у ім шпіцы, а пайдзі ты ўгледзь хоць адну. Так вось і ён чытае: мова, як каванае кола па каменьнях грыміць, а слова ніяк ня ўхопіш“.

А млынар слухаў, што людзі паміж сабою гаворачь, і радаваўся. Умеў такі папрацаваць для Госпада Бога: языком, як здаравенны хлапец цапом па току малаціў, ажно пад канец навет у горле засохла і вочы на лоб палезьлі.

Пасьля вячэрні бацюшка млынара да сябе паклікаў, гарбатаю напаіў, дый бутэльку з зельнікам на стол паставілі поўную, а зьнялі—пустую. Пасьля гэтага месяц стаяў ужо высока над палямі і заглядаў у маленькую, але быструю рэчку Каменку, калі млынар выйшаў з папоўскае хаты і пашоў праз вёску да сябе ў млын.

З вясковых людзей, іншы спаў, іншы сядзеў пры сьвятле каганцоў у хатах за вячэраю, а былі і такія, якіх ясная ды цёплая ноч выцягнула на вуліцу. І сядзелі сабе старыя людзі на прызьбах, а маладыя пад платамі ў густым цяню ад хатаў і вішнёвых садоў, так-што і дагледзіць іх ня было магчымасьці, а толькі ціхі гоман чутно было там і сям, а то й стрыманы сьмех, ці часам—неасьцярожны пацалунак якое-небудзь маладое пары...

Эх, мала што творыцца парою ў густым цяню пад вішнямі вось у гэтакую ясную ды цёплую ночку!

Хоць млынару ня відно было людзей, а людзі яго добра бачылі, бо йшоў ён самай сярэдзінай вуліцы на месяцу. І затым дзенідзе яму гаварылі:

„Добры вечар, пане млынару. Ці не ад бацюшкі гэта йдзецё? Ці не ў яго загасьціліся так доўга“?

Усе ведалі, што млынару болей ня было ад каго йсьці, але млынару было гэта прыемна, і ён не затрымоўваючыся адказваў не бяз пыхі:

— Але, загасьціўся такі трохі, — і шоў сабе далей гордым крокам.

Некаторыя ціханька сядзелі пад паветкамі і чакалі толькі, каб ён хутчэй прайшоў і не заўважыў іх. Але млынар быў не такі чалавек, каб прайсьці міма ці-то забыцца аб тых людзёх, што яму былі вінны ці за муку, ці за мялён, ці проста ўзялі ў яго грошы на працэнты. Нічога, што іх было дрэнна відаць у цяню і што яны маўчалі, як набраўшы вады ў рот; млынар усё-ж такі затрымоўваўся і гаварыў сам:

— Ці здаровенькі? Вы тут? Маўчэце, ці не маўчэце, гэта як сабе хочаце, а мне доўг зьбірайце, бо тэрмін заўтра, раніцай-ранень-ка. А я чакаць ня буду, вось што!

І пасьля гэтага ізноў ішоў далей па вуліцы, і яго цень бег з ім побач, ды такі чорны-чорны, што млынар, чалавек і заўсёды гатовы ў кожным выпадку пакратаць мазгамі, думаў:

— Вось які чорны цень, навет дзіва!.. Чалавек апрануты ў сьвітку бялейшую за муку, а цень ад яе—чарней за сажу...

Тут ён падышоў да карчмы жыда Янкеля, што стаяла на горцы, ужо недалёка ад выезду. Шабас ужо скончыўся з захадам сонца, але ўсё ж такі гаспадара ў шынку ня было, а замест яго сядзеў жыдоўскі парабак Харко, які заўсёды замяняў Янкеля і яго бохураў у шабас і ў сьвята. Ен запаліваў ім сьвечкі і браў сваімі рукамі ў людзей грошы, бо жыды—гэта ўжо ўсяму сьвету вядома—срога захоўваюць сваю веру: ні за што ў сьвята самі не запаляць сьвечкі і ня возьмуць у рукі грошаў: грэх! Усё гэта рабіў за іх парабак Харко, адстаўны жаўнер, а Янкель ці Янкеліха, а то й бохуры толькі сачылі быстрымі вачамі, каб як-небудзь дзесятка ці там дваццатка, замест выручкі, ня трапіла якім-небудзь чынам у кішэнь Харку. „Хітры народ, ой, і хітры-ж! — падумаў млынар. Умеюць і Богу свайму дагадзіць, і грошай не папусьцяць. Але й разумны народ, гэта таксама трэба сказаць,—дзе нашым“!

Ен супыніўся ля ўваходу ў карчму, на таку, моцна ўтаптаным множствам людзкіх ног, што таўкліся тут і ў кірмаш, і ў будні дні, увесь тыдзень,—і запытаўся:

— Янкель! Гэй Янкель! Дома ты, ці можа цябе няма?

— Няма, ня бачыце, ці што? — адказаў парабак з-за прыталкі.

— А дзе?

— Дзе—у месьце, вось дзе! — адказаў парабак. Вы хіба ня ведаеце, які ў іх дзень?

— Які?

— Іом-Кіпур!

„Вось вытлумачыў, дык вытлумачыў“!— падумаў млынар. А трэба вам сказаць, парабак гэты быў чалавек пісьменны і гаварысты. Любіў задзіраць дагары нос, а асабліва

*) Праз дзесяць дзён пасьля жыдоўскага новага году, які сьвяткуецца раньняй восеньню, адбываецца ў жыдоў сьвята Іом-Кіпур (ачышчэньня). Мяйсцовая хрысьціянская люднасьць называе гэты дзень „судным днём“. Існуе забабон, што ў гэты дзень жыдоўскі чорт, Хапун, забірае з сынагогі аднаго жыда. Да гэтага забабону падалі повад, напэўна, вельмі тклівыя і поўныя асаблівай выразьлівасьці цэрамоніі пры сьвяткаваньні Іом-Кіпура, каторыя выконываюцца ў маленькіх мястэчках Украіны й Беларусі на вачох хрысьціянскай людносьці.

